П р а е к т

# С Т А Т У Т
# БЕЛАРУСКАГА НАРОДНАГА ФРОНТУ ЗА ПЕРАБУДОВУ
# " А Д Р А Д Ж Э Н Ь Н Е "

М е н с к

1989

Праект

# СТАТУТ
## Беларускага Народнага фронту за перабудову "Адраджэньне"

Беларускі Народны фронт за перабудову "Адраджэньне" — гэта масавы грамадска-палітычны рух за пераутварэньне грамадства і адраджэньне беларускай нацыі на прынцыпах дэмакратыі і гуманізму, разьвіцьця культуры карэннага насельніцтва і усіх нацыянальных меншасьцяу на Беларусі.

БНФ дзейнічае у рамках Канстытуцыі і Законау БССР у адпаведнасьці са сваёй Праграмай і Статутам.

Галоуная мэта БНФ — усталяваньне дэмакратычнага грамадства, дасягненьне рэальнага суверэнітэту Беларусі.

Прызначэньне БНФ — абараняць інтарэсы народу, абуджаць грамадзянскую ініцыятыву, сацыяльную актыунасьць людзей, разьвіваць іх палітычную, прававую культуру, грамадскую і нацыянальную сьвядомасьць, забясьпечыць незваротнасьць перабудовы у БССР; змагацца з любымі спробамі замарудзіць ці адкінуць назад працэс дэмакратызацыі у Рэспубліцы.

## Асноуныя задачы БНФ "Адраджэньне"

- дамагацца дэмакратызацыі усіх сьферау жыцьця Рэспублікі, злому бюракратычнай сістэмы; выкараненьня насільля, дыскрымінацыі, падауленьня асобы; усталяваньня публічнасьці, поунай інфармаванасьці насельніцтва, множнасьці думак і меркаваньняу;
- садзейнічаць ажыцьцяуленьню у Беларусі прынцыпау прававай дзяржавы, якая забясьпечыць сацыяльную справядлівасьць і правы чалавека; спрыяць устанауленьню сапрауднага народауладзьдзя у БССР — улады Саветау, выбраных дэмакратычным шляхам; дамагацца практычнага разьдзяленьня функцый заканадаучай, выканаучай і судовай улады у Рэспубліцы;
- спрыяць усталяваньню палітычнага, тэрытарыяльнага, эканамічнага і культурнага суверэнітэту БССР;
- дамагацца збалансаванага разьвіцьця эканомікі Беларусі на прынцыпах поунага рэспубліканскага гаспадарчага разьліку і прыярытэтнага задавальненьня патрэбау яе насельніцтва, забесьпячэньня дабрабыту жыхароу Рэспублікі;
- дамагацца забесьпячэньня беларускаму народу варункау для самазахаваньня і працягу жыцьця на зямлі продкау у неабмежаванай гістарычнай перспектыве; спрыяць духоунаму адраджэньню нацыі на аснове

традыцыйных духоўна-этычных каштоўнасьцяў народу, роськвіту беларускай культуры, аднаўленьню гістарычнай памяці, нацыянальнай самасьвядомасьці і годнасьці беларусаў;

- дамагацца вяртаньня беларускай мове у Рэспубліцы юрыдычна і фактычна статусу дзяржаўнай, заканадаўчай аховы беларускай мовы і нацыянальна-гістарычных сімвалаў народу.

- садзейнічаць забесьпячэньню раўнапраўя для усіх нацыянальных групаў жыхароў Беларусі магчымасьці і права разьвіваць ім сваю мову і культуру;

- спрыяць захаваньню і адраджэньню прыроднага асяродзьдзя Беларусі, умацаваньню здароўя людзей, генетычнага фонду народу, выратаваньню насельніцтва Беларусі ад катастрафічных вынікаў чарнобыльскай аварыі.

## Дзейнасьць БНФ "Адраджэньне"

БНФ "Адраджэньне" вывучае, аналізуе становішча ва усіх сьферах эканамічнага, палітычнага, сацыяльнага, культурнага жыцьця Беларусі, высьвятляе шляхі і магчымасьці вырашэньня праблемаў, распрацоўвае і ажыцьцяўляе свае гаспадарчыя, культурныя, палітычныя мерапрыемствы і ініцыятывы, падтрымлівае грамадскія і дзяржаўныя пачынаньні, планы і праграмы, скіраваныя на паглыбленьне і паскарэньне працэсаў перабудовы, на кансалідацыю народу у вырашэньні праблемаў, што стаяць перад Рэспублікай; дамагаецца прававых, эканамічных і палітычных гарантыяў незваротнасьці абнаўленчых працэсаў, прававай і сацыяльнай абароненасьці грамадзянаў, кардынальных зьменаў у эканоміцы, культуры, асьвеце, ахове здароўя, экалогіі і інш.

БНФ дзейнічае на прынцыпах публічнасьці, усебаковай інфармаванасьці народу, адваротнай сувязі.

БНФ наладжвае вывучэньне грамадскай думкі, праводзіць сацыяльныя дасьледаваньні, ствараe незалежныя грамадскія экспертныя камісіі па важных пытаньнях жыцьця грамадства, наладжвае народныя абмеркаваньні вострых сацыяльна-эканамічных і нацыянальна-культурных праблемаў, наладжвае дыспуты, сходы, канферэнцыі, семінары, арганізуе народныя універсітэты, курсы, дыскусійныя клубы, робіць прапановы аб вынясеньні на усенародныя абмеркаваньні і рэферэндумы актуальных грамадскіх праблемаў, бярэ удзел у іх правядзеньні.

БНФ адзначае памятныя нацыянальныя даты і сьвяты.

БНФ арганізуе талокі для дагляду помнікаў гісторыі і культуры, захаваньня прыроды і іншую неабходную грамадскую працу, работы народнагаспадарчага і культуралагічнага характару, якія неабходныя

грамадству і патрабуюць грамадскага удзелу. БНФ займаецца таксама неабходнай гаспадарчай дзейнасьцю.

БНФ дамагаецца дэмакратызацыі выбарчай сістэмы, бярэ нароўні з іншымі грамадскімі і палітычнымі арганізацыямі удзел у выбарчых кампаніях: вылучае сваіх кандыдатаў у дэпутаты і падтрымлівае іншых кандыдатаў, якія стаяць на дэмакратычнай платформе, удзельнічае у абмеркаваньнях і ацэнцы іх праграмаў, выпрацоўвае наказы дэпутатам, дапамагае народным дэпутатам у эфектыўным ажыцьцяўленьні іх дзейнасьці, ставіць пытаньне аб адклiканьні дэпутатаў і іншых выбарных асобаў, што не апраўдалі даверу выбаршчыкаў, прымае удзел у грамадскім кантролі за ходам выбарчай кампаніі. БНФ удзельнічае у выбарах кіраўнікоў прадпрыемстваў і установаў, саветаў працоўных калектываў, іншых выбарных органаў, вылучае у іх сваіх кандыдатаў. БНФ зьдзяйсьняе грамадскі кантроль над дзейнасьцю выканаўчых органаў улады, бярэ удзел у працы органаў народнага кантролю.

БНФ супрацоўнічае з іншымі грамадскімі, дзяржаўнымі, савецкімі, партыйнымі органамі і установамі у ажыцьцяўленьні планаў і праграмаў, адпаведных інтарэсам народа, мэтам і задачам БНФ, прымае удзел у працы дзяржаўных і грамадскіх камісіяў, распрацоўвае і падае у дзяржаўныя органы свае прапановы, мясцовым саветам — праекты рашэньняў па рэгіянальных пытаньнях, распрацоўвае і публікуе для усенароднага абмеркаваньня праграмы і канцэпцыі персьпектыўнага разьвіцьця БССР, падае у Вярхоўны Савет БССР законапраекты, уносіць прапановы аб прыняцьці новых законаў, аб адмене ці зьмене недасканалых або недэмакратычных законаў.

БНФ дамагаецца забесьпячэньня законнасьці, правоў і інтарэсаў грамадзянаў і грамадскіх арганізацыяў, вядзе барацьбу са злоўжываньнямі уладаю, з канкрэтнымі праявамі і носьбітамі бюракратызму, сочыць за выкананьнем у Беларусі міжнародных пагадненьняў і пактаў па абароне грамадзянскіх, палітычных, сацыяльных правоў і вольнасьцяў чалавека.

Асноўныя метады дзейнасьці БНФ "Адраджэньне" — пераканаваньне, агітацыя, дыскусіі, асьветніцтва. БНФ арганізоўвае мітынгі і сходы, мірныя маніфестацыі, дэманстрацыі, маршы, пікеты; распаўсюджвае інфармацыю у выглядзе лістовак, плакатаў, зваротаў, адкрытых лістоў; выказвае грамадскі недавер; зьвяртаецца да грамадскасьці саюзных рэспублік і іншых краінаў.

БНФ выступае супраць насільля і не адказвае насільлем на яго прымяненьне уладамі.

БНФ выступае у сродках масавай інфармацыі; выдае свае газеты, бюлетэні, інфармацыйныя матэрыялы і г.д.

БНФ — аўтаномнае фармаваньне, якое дзейнічае самастойна і не падпарадкоўваецца іншым арганізацыям і ўстановам.

БНФ наладжвае і падтрымлівае сувязі зь іншымі народнымі франтамі і дэмакратычнымі рухамі ў СССР і за яго межамі, бярэ ўдзел у агульных зь імі акцыях.

## Удзел у БНФ "Адраджэньне"

БНФ "Адраджэньне" аб"ядноўвае грамадзянаў у БССР і за яе межамі*, якія дасягнулі 16-гадовага ўзросту, падзяляюць Статут БНФ і падтрымліваюць яго Праграму, незалежна ад нацыянальнасьці, партыйнасьці, веравызнаньня і сацыяльнага становішча.

Прыхільнікі "Адраджэньня" садзейнічаюць у свабодна абраных формах ажыцьцяўленьню Праграмы БНФ.

Прыхільнікі БНФ становяцца яго ўдзельнікамі, увайшоўшы ў адну з групаў падтрымкі — пачатковую арганізацыю "Адраджэньня".

Удзельнікі БНФ карыстаюцца правам:

- свабоднага ўдзелу ў мерапрыемствах Фронту;
- арганізоўваць мерапрыемствы БНФ у адпаведнасьці з яго Статутам і Праграмай;
- выказваць свае меркаваньні, крытыкаваць, уносіць прапановы, абмяркоўваць усе пытаньні дзейнасьці БНФ;
- выбіраць і быць абраным у кіраўнічыя і іншыя органы БНФ;
- вольнага выхаду з БНФ.

Удзельнік БНФ атрымоўвае юрыдычную, маральную і іншую падтрымку і дапамогу з боку БНФ. "Адраджэньне" рашуча асуджае і даводзіць да ведама грамадскасьці любую спробу перасьледу і ганеньняў за ўдзел у Народным фронце.

БНФ складаецца з групаў падтрымкі. Групы падтрымкі / ня менш за 3 чалавекі / ствараюцца па месцы працы, вучобы, службы, жыхарства, у самадзейных аб"яднаньнях, таварыствах, творчых саюзах, кааператывах людзьмі, зьяднанымі грамадзянскай сьвядомасьцю і абавязкам, агульнасьцю маральных і этычных крытэрыяў. Новыя сябры прымаюцца ў склад групы падтрымкі на сходзе групы простай большасьцю галасоў. Уступленьне вольнае без пісьмовай заявы, рэкамендацыяў і выпрабавальнага тэрміну. Самапрыём не дапускаецца. Складаюцца сьпісы сяброў групы падтрымкі, але індывідуальныя пасьведчаньні, сістэма абавязковых складак адсутнічаюць. Аднак могуць быць дабраахвотныя складкі і іншыя формы матэрыяльнай падтрымкі. Вызваленыя партыйныя, камсамольскія, прафсаюзныя работнікі могуць быць толькі радавымі сябрамі групаў падтрымкі.

* У гэтым выпадку ўдзельнікі БНФ дзейнічаюць у рамках законаў той краіны ( рэспублікі ), у якой жывуць.

Група падтрымкі рэгіструецца Прауленьнем БНФ на падставе заявы і пратаколу яе арганізацыйнага сходу і фіксуецца у раённай, гарадской альбо сельскай Радзе "Адраджэньня", паведамляе пра свае магчымасьці і падае прапановы аб яе удзеле у рэалізацыі мэтау Фронту. Прауленьне вызначае адпаведнасьць плану дзейнасьці групы падтрымкі Статуту і Праграме БНФ.

Структура, форма і план дзейнасьці групы падтрымкі вызначаюцца яе сябрамі; яны павінны адпавядаць асноуным ідэям і прынцыпам БНФ. Група падтрымкі праводзіць у жыцьцё Праграму БНФ, бярэ удзел у агульных мерапрыемствах і акцыях, разьвівае уласную ініцыятыву. У выпадку няудзелу у гэтых мерапрыемствах — не процідзейнічае працы іншых падразьдзяленьняу БНФ.

Група падтрымкі дзейнічае выключна на грамадскіх асновах. Яна выбірае са свайго складу упаунаважанага, які арганізуе працу групы, прадстауляе групу перад выбранымі / тэрытарыяльнымі і цэнтральнымі / органамі БНФ, робіць справаздачы перад сябрамі групы, распараджаецца яе грашовымі сродкамі па рашэньні групы. Група падтрымкі выбірае скарбніка, можа ствараць рэвізійную камісію і г.д.. Са сродкау, якія зьбіраюцца групай падтрымкі, ня менш як 50% перадаецца у Прауленьне БНФ.

Група падтрымкі вылучае сваіх прадстаунікоу у кіраунічыя і каардынацыйныя органы БНФ і можа іх адклікаць.

Група падтрымкі супрацоунічае з саветам працоунага калектыву, грамадскімі арганізацыямі, з іншымі групамі падтрымкі, каардынуе зь імі сваю дзейнасьць.

Галоуныя задачы групы падтрымкі — удзел у рашэньні мясцовых і агульнанацыянальных праблемау; рэалізацыя эканамічных, сацыяльных, палітычных, прававых рэформау, забесьпячэньне дэмакратызацыі, публічнасьці у сваіх калектывах, гарадах і вёсках, рэальны уплыу на прынцыпе жыцьцёва важных рашэньняу. Важнае месца у практычнай дзейнасьці групау павінны займаць асьветніцтва, праблемы экалогіі і культуры.

Удзельнік БНФ можа быць выключаны з БНФ па рашэньні групы падтрымкі, калі ён груба парушае Статут ці ганьбіць званьне удзельніка БНФ, альбо яго дзейнасьць супярэчыць мэтам і прынцыпам БНФ. Гэтае рашэньне можа быць абскарджана у вышэйшым выбарным органе Фронту.

Група падтрымкі у поуным складзе па тых жа прычынах можа быць адлучана ад БНФ рашэньнем Сойму альбо Зьезду БНФ.

У межах пэунай мясцовасьці некалькі групау падтрымкі могуць утвараць тэрытарыяльную / сельскую, гарадскую, раённую / Раду БНФ,

вылучыўшы ў яе сваіх упаўнаважаных, выбраць кіраўніка Рады. Рада БНФ можа ствараць у сваім складзе Праўленьне Рады БНФ, выбраць скарбніка і рэвізійную камісію. Вылучэньнэ, альбо пацьвярджэньне паўнамоцтваў упаўнаважаных,дэлегаваных у тэрытарыяльную Раду БНФ, адбываецца адзін раз на два гады ў кожнай групе падтрымкі. Рады БНФ могуць займацца выдавецкай дзейнасьцю.

Для каардынацыі дзеяньняў групы падтрымкі і Рады БНФ могуць утвараць рэгіянальныя / абласныя / Адзьдзелы Фронту, вылучыўшы туды упаўнаважаных. Рэгіянальны / абласны / Адзьдзел БНФ не ўтварае самастойнай структуры, а зьяўляецца толькі каардынацыйным органам групаў і Радаў БНФ на пэўнай тэрыторыі, якая не абавязкова павінна супадаць з існуючым адміністрацыйным падзелам. Рады і групы падтрымкі БНФ пры неабходнасьці могуць рабіць разавыя грашовыя адлічэньні са сваіх 50% сродкаў у рэгіянальны Адзьдзел упаўнаважаных.

Рэгіянальны Адзьдзел БНФ вызначае агульныя формы дзейнасьці, мерапрыемствы і акцыі, арганізуе сувязі зь іншымі грамадскімі арганізацыямі і аб"яднаньнямі і каардынуе дзейнасьць Радаў.

Грамадскія суполкі і аб"яднаньні, усе удзельнікі якіх прызнаюць Праграму і Статут БНФ і жадаюць удзельнічаць у руху "Адраджэньне", прымаюцца ў БНФ на правах групы падтрымкі.

У структуру БНФ рашэньнем Сойму альбо Зьезду могуць уключацца іншыя грамадска-палітычныя арганізацыі, калі іхнія мэты і дзейнасьць не пярэчаць праграмным палажэньням БНФ.

## Кіраўнічыя органы БНФ "Адраджэньне"

Усе кіраўнічыя органы БНФ зьяўляюцца выбарнымі, дзейнічаюць на грамадскіх асновах на прынцыпах поўнай публічнасьці і калегіяльнасьці.

Кіраўнічымі органамі БНФ зьяўляюцца Зьезд і Сойм.

Выканаўчым органам Сойму БНФ зьяўляецца Праўленьне БНФ.

Галоўны кіраўнічы орган БНФ "Адраджэньне" — Зьезд, які зьбіраецца не радзей аднаго разу на 2 гады. Пра скліканьне чарговага Зьезду паведамляецца не пазьней, чым за тры месяцы да яго адкрыцьця. Дэлегаты Зьезду выбіраюцца з прадстаўнікоў групаў падтрымкі, а таксама арганізацый, секцый, камітэтаў і камісій БНФ. У рабоце Зьезду могуць браць удзел з дарадчым голасам прадстаўнікі грамадскіх арганізацыяў і рухаў, якія падтрымліваюць БНФ.

Пры неабходнасьці можа быць скліканы нечарговы Зьезд па патрабаваньню Сойму, Праўленьня, ці 1/3 усіх Радаў упаўнаважаных групаў падтрымкі.

Зьезд БНФ:

- прымае рашэньне пра стварэньне БНФ і аб яго ліквідацыі;

- зацьвярджае структуру кіраўнічых органаў БНФ, прымае Праграму і Статут БНФ, робіць у іх дапаўненьні і зьмены;

- абмяркоўвае і прымае рашэньні па прынцыповых пытаньнях дзейнасьці БНФ, зацьвярджае асноўныя накірункі яго дзейнасьці;

- прымае рашэньні аб зваротах у Вярхоўны Савет і іншыя дзяржаўныя органы Рэспублікі, у тым ліку з заканадаўчымі ініцыятывамі, робіць заявы па важнейшых пытаньнях грамадскага жыцьця;

- выбірае на 2 гады Сойм, Старшыню Сойму і двух намесьнікаў Старшыні Сойму БНФ, Рэвізійную камісію, заслухоўвае іх справаздачы, зацьвярджае бюджэт БНФ і справаздачы аб яго выкананьні, прымае рашэньні пра сімволіку і інш.;

- зацьвярджае рэдактараў і рэдкалегіі друкаваных органаў БНФ.

Рашэньні Зьезда прымаюцца адкрытым галасаваньнем большасьцю галасоў пры наяўнасьці ня менш чым 2/3 дэлегатаў. Выбары кіраўніцтва БНФ і рашэньні па персанальных пытаньнях праводзяцца таемна.

Сойм БНФ працуе ў прамежках паміж Зьездамі, фармуе склад Праўленьня. Сойм склікаецца не меней чым чатыры разы на год. Да ўстаноўчага Зьезду БНФ яго функцыі выконвае Аргкамітэт БНФ "Адраджэньне". Сойм зьяўляецца паўнамоцным, калі ў яго пасяджэньнях удзельнічаюць больш чым палова яго сяброў, а рашэньні правамоцнымі, калі за іх пададзена больш чым палова галасоў прысутных. Старшыня Сойму і яго намесьнікі прымаюць адказныя рашэньні калегіяльна. Сябры Сойму маюць роўныя правы і нясуць адказнасьць перад Зьездам БНФ.

Сойм БНФ:

- склікае Зьезд БНФ і вызначае парадак прадстаўніцтва на ім;

- прадстаўляе і адстойвае ідэі і зьмест дзейнасьці БНФ;

- разглядае і вырашае прынцыповыя пытаньні руху, прымае рашэньні пра буйныя ўсеагульныя акцыі і мерапрыемствы, ажыцьцяўляе захады дзеля рэалізацыі Праграмы і рашэньняў Зьезду БНФ, вырашае прынцыповыя пытаньні практычнай дзейнасьці "Адраджэньня".

- ад імя БНФ уносіць у Вярхоўны Савет БССР законапраекты, у іншыя дзяржаўныя установы — прапановы;

- удзельнічае ў выбарчых кампаніях, распрацоўвае выбарчую платформу БНФ;

- фармуе тэрмінам на 2 гады Праўленьне БНФ і вызначае рэгламент яго працы; зацьвярджае кіраўнікоў і склад секцыяў, рабочых камісіяў і групаў;

- арганізуе фінансава-гаспадарчую дзейнасьць БНФ. У межах фонду зарплаты вызначае штаты тэхнічнага персаналу БНФ; вырашае пытаньні фінансаваньня рэспубліканскіх праграмаў і акцыяў БНФ, зацьвярджае асобаў, надзеленых правам падпісваць фінансавыя дакументы і дагаворы БНФ.

Праўленьне — пастаянны дзейны орган БНФ, зьбіраецца на пасяджэньні не радзей аднаго разу на тыдзень, рашэньні прымае большасьцю галасоў пры наяўнасьці на пасяджэньні больш чым паловы яго сяброў.

Праўленьне БНФ:

- кіруе дзейнасьцю БНФ у межах нададзеных паўнамоцтваў, забясьпечвае практычнае выкананьне рашэньняў Зьезда і Сойму БНФ, каардынуе дзейнасьць групаў падтрымкі, Радаў і рэгіянальных Адзьдзелаў, іншых органаў БНФ, ладзіць сувязь з грамадскімі арганізацыямі і дзяржаўнымі органамі БССР;

- рыхтуе асноўныя дакументы БНФ для абмеркаваньня і прыняцця Соймам ці Зьездам БНФ, разглядае ініцыятывы і прапановы па дзейнасьці БНФ;

- арганізоўвае мерапрыемствы, акцыі, талокі, сходы, мітынгі, курсы, універсітэты, гурткі і г.д., а таксама вытворчую дзейнасьць;

- распараджаецца сродкамі БНФ у межах бюджэту і ў адпаведнасьці з рашэньнямі Сойму БНФ.

Секцыі і камісіі Сойму БНФ:

- абагульняюць і выпрацоўваюць для пасяджэньняў Сойму і Зьезду прапановы, праекты рашэньняў, дакументаў БНФ;

- распрацоўваюць рабочыя праграмы і рэкамендацыі;

- рыхтуюць праекты законаў і іншых нарматыўных актаў;

- ажыцьцяўляюць экспертызу і рыхтуюць прапановы па важных грамадскіх пытаньнях.

Рэвізійная камісія БНФ справаздачная толькі перад Зьездам. Яна кантралюе фінансавую дзейнасьць БНФ, правярае яго бюджэт, баланс і інш. Сябры рэвізійнай камісіі бяруць удзел у пасяджэньнях Сойму і Праўленьня БНФ з дарадчым голасам.

Скарбнік БНФ і штатны персанал прызначаецца Праўленьнем.

Сябры кіраўнічых органаў "Адраджэньня", якія далі згоду працаваць на вызваленых партыйных, камсамольскіх, прафсаюзных пасадах, дабраахвотна складаюць зь сябе паўнамоцтвы у гэтых органах, застаючыся радавымі удзельнікамі БНФ.

Праўленьне БНФ знаходзіцца у горадзе Менску.

## Маёмасьць і фінансы

БНФ, яго тэрытарыяльныя Рады і групы падтрымкі валодаюць правам юрыдычнай асобы.

БНФ мае сваю маёмасьць і фінансавыя сродкі, якія захоўвае на бягучых банкаўскіх рахунках, у тым ліку ў замежнай валюце. Грашовыя сродкі БНФ складаюцца:

- з дабраахвотных ахвяраваньняў і пералічэньняў ад удзельнікаў БНФ, арганізацыяў, прадпрыемстваў, установаў, кааператываў, прыватных асобаў у СССР і за мяжой, у тым ліку ахвяраваньні на канкрэтныя мэты;
- з паступленьняў ад выдавецкай і гаспадарчай дзейнасьці;
- з даходаў ад масавых мерапрыемстваў, арганізаваных БНФ;
- са сродкаў, зароблены удзельнікамі БНФ на выставах, талоках, сьпектаклях;
- са сродкаў, атрыманых па тэстаментах;
- зь дзяржаўных асігнаваньняў на вядзеньне перадвыбарчай кампаніі.

Сродкі БНФ выдаткуюцца:

- на выданьне і распаўсюджваньне літаратуры БНФ;
- на арэнду памяшканьняў;
- на камандзіровачныя выдаткі;
- на арганізацыю мітынгаў і дэманстрацый і іншых масавых мерапрыемстваў;
- на правядзеньне народных сьвятаў і іншых культурных мерапрыемстваў;
- на арганізацыю лекторыяў і ўніверсітэтаў;
- на правядзеньне сацыяльных дасьледаваньняў;
- на стыпендыі БНФ;
- на дабрачынную дзейнасьць;
- на матэрыяльную падтрымку ініцыятываў, скіраваных на адраджэньне нацыянальнай культуры;
- на ушаноўваньне памяці ахвяраў сталінізму і іншых масавых рэпрэсій;
- на вядзеньне выбарчых кампаній;
- на ўтрыманьне штатнага персаналу;

Кіраўніцтва БНФ — сябры Сойму, Праўленьня, Рэвізійнай камісіі — выконваюць свае абавязкі на грамадскіх асновах. БНФ можа кампенсаваць ім фактычныя выдаткі, зьвязаныя з выкананьнем гэтых абавязкаў.

## Сімвалы, атрыбутыка, пячатка

БНФ мае сваю эмблему, якая зацьвярджаецца Зьездам.

БНФ выкарыстоувае беларускую нацыянальную гістарычную сімволіку: бела-чырвона-белы сьцяг і герб "Пагоня". Пры гэтым Рады і Адзьдзяленьні Фронту могуць ужываць рэгіянальныя гістарычныя сімвалы / гербы гарадоу і да т.п. / і іншыя народныя сімвалы у спалучэньні з эмблемай БНФ.

Прауленьне БНФ і тэрытарыяльныя Рады маюць пячаткі са сваім назовам і эмблемай "Адраджэньня".

## Заключэньне

Беларускі Народны фронт за перабудову "Адраджэньне" зьяуляецца часткай грамадска-палітычнай структуры Беларускай ССР.

Рашэньне аб спыненьні дзейнасьці БНФ "Адраджэньне" можа прыняць яго Зьезд пры умове, калі за гэтае рашэньне прагаласуе 9/I0 дэлегатау.

Зьмест

стар.